■ МЯДЗЕЛЬСКІЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ

## Што новага?

**МЯДЗЕЛ. Шэраг навінак плануюць асвоіць сёлета на прадпрыемствах раёна.**

Так на УП «Ілаўскае» збіраюцца выпускаць чыпсы. На Нарачанскім заводзе напояў мяркуюць набыць лінію па розліве віна ў тэтра-упакоўку. На масласырзаводзе хочуць вырабляць ацэдафілін, пашырыць асартымент йагуртаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У магазін – за канфіскатам

**МЯДЗЕЛ. У к.п. Нарач з нядаўняга часу працуе магазін «Канфіскаваныя тавары».**

Прадаюць тут тавар, які быў затрыманы на мяжы. Магазін невялікі – адзін пакойчык. У продажы замежныя тэлевізары, пральныя машыны, хрусталь.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Прыпынілі дзейнасць махляроў-самазванцаў

**МЯДЗЕЛ. Двое мінчан гастралявалі па раёне.**

Як заходзілі да вяскоўцаў, прадстаўляліся быццам бы яны з райвыканкома і сельсавета, прывезлі ім адтуль падарунак – электрамасажор. – Каштуе ён вялікіх грошай, каля 500 тысяч рублёў, але ж вам пашчасціла, бясплатна дастанецца – падарунак жа як-ніяк! – угаворвалі. – Праўда, падатак невялікі трэба на прыбор заплаціць, у параўнанні з яго коштам зусім дробязь – 46 тысяч рублёў. Завіталі і да жыхаркі вёскі Крапіўна. Яна на такі абмен не згадзілася і патэлефанавала пра гасцей у свой, Дзягільскі, сельсавет. Туды ж пазваніла і жанчына з вёскі Муцеўшчына: яна «падатак» заплаціла, прыбор атрымала і вырашыла падзякаваць мясцовай уладзе за такі клопат. У сельсавеце, зразумела, ніякай акцыі па раздачы масажораў не праводзілі, таму хуценька патэлефанавалі ў міліцыю. Іншамарку з двума самазванцамі тармазнулі ля Мядзела. Аднаго з іх затрымалі па падазрэнні ў махлярстве. Высветлілася, што на рахунку «камерсантаў» 11 такіх здзелак за тыдзень у раёне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Добры вадзіцель – атрымай падарунак

**СМАРГОНЬ. 29 студзеня скончыўся тэрмін падачы анкет для ўдзелу ў акцыі заахвочвання ўзорных вадзіцеляў. Іх падалі толькі тыя, хто на працягу 3 год не ўчыніў дарожных аварый і не плаціў штрафаў.**

Калі ў мінулым годзе жадаючых было 179, то ў гэтым – 300. Такую акцыю мясцовай ДАІ пакуль ніхто ў рэспубліцы не пераняў.

Цяпер "узорныя" чакаюць розыгрышу латарэі. Калі пашанцуе, можна атрымаць адзін з 50 прызоў.

**Тарэса КУМІШЧА.**

■ ЗАКАНАДАЎСТВА

# Пенсіянерам кожны можа стаць

**Чакаецца, што сёлета Палатай прадстаўнікоў Беларусі будзе прыняты новы, больш дасканалы, пенсійны законапраект.**

На гэтым фоне, на маю думку, цікавыя будуць узоры аналагічных заканадаўстваў у іншых краінах. Так, у Германіі, дзе на 1,7 працуючага прыпадае адзін пенсіянер, пенсійны ўзрост як мужчыны, так і жанчыны пачынаецца з 65 год. У выніку дэмаграфічнага крызісу, па падліку нямецкіх адмыслоўцаў ужо ў 2020 годзе, калі будзе назірацца парытэт працуючых і пенсіянераў, паўстане пытанне аб яго змененні ў бок падвышэння. Сярэдняя пенсія нямецкага грамадзяніна з улікам надбаўкі за стаж складае прыкладна 60% ад яго заработку, плюс сума ад пенсійнага страхавання і іншых адлічэнняў праз недзяржаўныя фонды. Памер яе – каля 2000 долараў.

У суседняй Польшчы пенсійны ўзрост мужчыны цяпер складае 65, жанчыны – 60 год. Гарантаваная пенсія фарміруецца з 19%, якія адлічваюцца прадпрыемствамі і ўстановамі ў пенсійны фонд, і надбаўкі за стаж, астатняя складаецца са страхавых і іншых прыватных адлічэнняў. У Польшчы не існуе і заканадаўчых перашкод для прыватных і акцыянерных таварыстваў, якія прадугледжваюць у сваім статуце за кошт прадпрыемства штомесячныя пенсійныя надбаўкі былым работнікам, што сумленна адпрацавалі на іх. Сярэдняя польская пенсія на гэты час складае 50% заработку па краіне, што ў доларавым эквіваленце роўна 278, а мінімальная – 133.



Фота iREX/ProMedia.

**Пакуль малады – рэдка задумваешся над тым, што яшчэ будзе...**

У адрозненне ад Польшчы, па версіі будучага законапраекта, расійская пенсія будзе складацца з базавай, якая абапіраецца на ўзровень стаўкі 1-га разраду, і накапляльнай, якая ўлічвае штомесячнае адлічэнне работадаўцамі з фонду зарплаты 14%. Захаваецца пакуль і цяперашні пенсійны ўзрост. У астатнім будучы пенсійны заканадаўчы кодэкс будзе вельмі падобны да польскага, у якім на гэты раз не будзе абмежаванняў у памеры пенсіі, якая цяпер складае max=2005 расійскіх рублёў, і будзе налічвацца не з некалькіх, а з усіх год працоўнага стажу. Што тычыцца памераў пенсійных выплат, то ў кожнай краіне яны залежаць ад эканамічнага і жыццёвага ўзроўню і налічваюцца ў адпаведнасці з яе патэнцыяльнымі магчымасцямі.

**Алесь ЦАДКО.**

■ СЯМ'Я

## Малалеткі-алкаголікі трапляюць у рэанімацыю

**МАЛАДЗЕЧНА. 24 студзеня прайшло пасяджэнне гарадской камісіі па справах непаўналетніх. Размова ішла пра ход выканання гарадской праграмы "Прафілактыка безнагляднасці правапарушэнняў і злачынстваў сярод непаўналетніх".**

У Маладзечне складваецца даволі стабільнае становішча з дзіцячымі злачынствамі. На сённяшні дзень іх колькасць знаходзіцца на ўзроўні 80–90 гадоў. Напрыклад, у 1980 годзе іх было 45, у 1990 – 46, а ў 2001 – 39. У асноўным, гэта крадзяжы.

Востра стаіць праблема дзіцячага п'янства. Ініцыятарамі тут часта выступаюць бацькі. Калі ў 1989 годзе камісія разглядала паводзіны 48 падлеткаў, якія пілі спіртное, то ў 2001 гэтая лічба дасягнула 315. А сёлета ўжо быў выпадак, калі дзіця трапіла ў рэанімацыю з-за таго, што атруцілася алкаголем.

У Маладзечне зарэгістравана 303 праблемныя сям'і, дзе бацькі п'юць, не дбаюць пра выхаванне дзяцей. У 2001 годзе 25 такіх сем'яў былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў. У выніку 27 дзетак засталося сіротамі пры жывых бацьках.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

## Астравеччына патанае ў спірце

**АСТРАВЕЦ. Удалую аперацыю на гэтым тыдні правялі супрацоўнікі мясцовай пагранкамендатуры, міліцыі і падатковай інспекцыі.**

Падчас рэйду ля вёскі Дайлідкі яны затрымалі грузавы аўтамабіль "Мерседэс", якім кіраваў жыхар Астраўца К. У аўтамабілі знаходзілася 9 бочак са спіртам, кожная ёмістасцю па 200 літраў. Суправаджальных дакументаў на груз у вадзіцеля не аказалася. Не знайшліся яны і падчас разбору, таму далейшы лёс спірту неўзабаве вызначыць суд.

Але на гэтым удача апаратыўнікаў не пакінула, і ўжо на другі дзень паблізу той жа вёскі Дайлідкі яны знайшлі аўтамабіль "УАЗ-452" з 7 аналагічнымі бочкамі спірту. Гаспадар грузу пакуль адсутнічае і наўрад ці аб'явіцца.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Пра маладзечанскае тэлебачанне

**Вось ужо каторы год многія жыхары маладзечанскіх шматпавярховак маюць магчымасць глядзець перадачы кабельнага тэлебачання.**

Праўда, у кожным раёне горада набор тэлеканалаў залежыць не ад пажаданняў гледачоў, а ад тых прадпрыемстваў, якія займаюцца іхняй рэтрансляцыяй. Хацелася б, усё ж, каб сярод спектра расійскіх каналаў знайшлося месца 1-му ці 2-му польскаму і хаця б аднаму, калі гэта магчыма, каналу з Украіны.

І яшчэ хачу звярнуць увагу на адну акалічнасць. Летам 1994 года ў горадзе пачалося стварэнне мясцовай тэлестудыі, і ўжо ў канцы таго года была цалкам гатовая яе матэрыяльна-тэхнічная база. Справа была толькі за атрыманнем ліцэнзіі ў Міністэрстве сувязі. Аднак прайшло ўжо больш за 7 год, а гарадское тэлебачанне так і не адбылося. А такія студыі ёсць ужо не толькі ў суседніх Смаргоні, але нават і ў Беразінскім. Няўжо дрэнна было б і ў нас пачуць мясцовыя навіны, аб'явы ці музычную віншаванку? Відаць, не да гэтага як гарадскім, так і абласным дэпутатам, якіх, здаецца, нічога ўжо не хвалюе.

**Алесь ЦАДКО, Маладзечна.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 24 студзеня | 31 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1627,00 руб. | **1638,00** руб. |
| Літ | 406,83 руб. | **409,55** руб. |
| Расійскі рубель | 53,24 руб. | **53,38** руб. |
| Злоты | 395,67 руб. | **395,89** руб. |
| ЕЎРА | 1442,01 руб. | **1417,61** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1670 – 1700 руб. | **1660 – 1680** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 23.01 | 30.01 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | 2600 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 9500 | 9500 |
| Сасіскі, 1 кг | 3950 | 3950 |
| Селядзец, 1 кг | 2100 | 2200 |
| Рыс, 1 кг | 600 | 580 |
| Грэчка, 1 кг | 520 | 480 |
| Цукар, 1 кг | 715 | 730 |
| Алей, 1 л | 1550 | 1480 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Маянэз, 200 г | 320 | 320 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1800 | 1800 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 580 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 600 | 550 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 500 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 500 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | 1900 |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | 1600 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1400 |
| Масла, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Тварог, 1 кг | 1500 | 1500 |
| Малако, 1,5 л | 500 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 2600 | 2600 |
| Морква, 1 кг | 800 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 650 | 650 |

■ ПАСЛУГІ



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Чарговы аўтамабіль мые Канстанцін Іваноў.**

# Новая мыйка

**МАЛАДЗЕЧНА. Зноў можна памыць свой аўтамабіль, убраць салон на станцыі тэхнічнага абслугоўвання, што па вуліцы Віленскай, 40 (за магазінам "Крышталь"). Акрамя таго, тут могуць памыць рухавік, зрабіць лакіроўку.**

Гаворым з гаспадаром аўтамыйкі, прадпрымальнікам **Сяргеем Кажурам**:

– Гэта другая мыйка, адкрытая мной у Маладзечне. Першая пачала працаваць непадалёку ад ДАІ ўлетку. У горадзе была ўсяго адна мыйка ў прадпрыемстве МіГ (былое "Пушэ"). А гэтага для Маладзечна мала. Вось і вырашыў паспрабаваць.

Пачынаў Сяргей, як і многія прадпрымальнікі, з гандлю на базары. Затым займаўся дрэваапрацоўкай. З часам пераарыентаваўся на абслугоўванне аўтатранспарту. За дзень праз мыйку можа прайсці да 50–60 машын. Месца выгаднае. У гэтым самым будынку аўтамабілісты праводзяць тэхагляд сваіх аўто. Многае значыць і звычка. Але апошнім часам мыйка тут не працавала – вадзіцелі і адвыклі ад гэтай паслугі менавіта тут.

Памяшканне ўзятае ў арэнду ў станцыі тэхабслугоўвання (прадпрыемства Маладзечанскі аўтатэхсервіс). Гэта, па словах кіраўніка прадпрыемства **Мікалая Вяроўкі**, выгадна абодвум бакам. Акрамя арэнднай платы, станцыя атрымлівае ў работу чыстыя аўтамабілі. Працуе мыйка, як і станцыя, з 8-00 да 20-00 штодня.

Сяргей Кажура спадзяецца, што праз 2 месяцы, як гэта адбылося і на першай арганізаванай ім мыйцы, загружанасць стане такая, што можна будзе гаварыць пра даходнасць прадпрыемства.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ **ДА 185-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ**

# Эдвард Жалігоўскі

Гэта імя цяпер мала каму што гаворыць, а быў час, калі творчасцю і рэвалюцыйнай дзейнасцю польскамоўнага паэта-дэмакрата захапляліся **А. Герцэн**, **Т. Шаўчэнка**, яго справу разглядалі сам імператар і міністр унутраных спраў Расіі.

Скупыя бібліяграфічныя дадзеныя даносяць, што нарадзіўся ён 20 ліпеня 1816 года ў фальварку Мар'янполе (цяпер не існуе) Касцяневіцкай парафіі Вілейскага павета. Аднак гэтая дата не зусім дакладная, бо ў архіўным фондзе "Мінская рымска-каталіцкая духоўная кансісторыя" запісана, што ў гэты дзень адбылося хрышчэнне дзіцяці імем **Эдуард Вітольд**, сына высакародных **Юльяна** і **Марыяны** (з Любанскіх) **Жалігоўскіх**, законных сужанцаў з шляхты. Бацькі яго паходзілі са слынных старажытных родаў. Пазней Жалігоўскія праславіліся вядомым польскім ваенным дзеячам генералам **Люцыянам Жалігоўскім**, а Любанскія валодалі такімі маёнткамі, як Любань, Тэклінаполь (Шалавічы), Яхімоўшчына, Лошыца (пасля Прушынскіх) пад Мінскам. Дваранін **Яўстафій Любанскі** быў адзін з буйнейшых і багацейшых памешчыкаў Паўночна-Заходняга краю, вядомы грамадскі дзеяч свайго часу, дэпутат Дзяржджумы Расіі (1906 г.) першага склікання.

З маленства Эдвард прагна цягнуўся да ведаў. Атрымаўшы першапачатковую адукацыю, у 1833 годзе паступае ў Дэрпцкі (цяпер Тарту) універсітэт, дзе знаёміцца з перадавымі вучэннямі **Гегеля** і **Фейербаха**, збліжаецца са сваімі землякамі **Б. Залескім** і **Р. Друцкім-Падбярэзскім**, разам з імі ўваходзіць у тайнае студэнцкае таварыства. За сваю рэвалюцыйную дзейнасць па справе **Ш. Канарскага** і **Ф. Савіча** быў інтэрніраваны, на радзіму вярнуўся ў 1842 годзе. Спачатку жыў у бацькоў у Мар'янполі, а затым пераехаў у Вільню. Прыкладна ў гэты час і пачалася яго паэтычная дзейнасць.

Першыя свае вершы Эдвард напісаў у 1841 годзе пад псеўданімам **Антон Сава**. У іх паэт усхваляў прыгажосць роднага краю, паказваў мясцовы побыт і фальклор. Пачаў выступаць у абарону цяжкага жыцця сялян. І як вынік гэтага, у 1846 годзе Жалігоўскі выдае антыпрыгонніцкую вершаваную драму "Іардан", якая вытрымала два выданні. Вось якую рэакцыю выклікала яна ў Віленскага генерал-губернатара, адрасаваную ў пісьме міністру ўнутраных спраў: "Па звестках, якія дайшлі да мяне, указаны твор аказаў моцнае ўражанне на моладзь як у тутэйшых губернях, так і ў Варшаве. Аўтар набыў вядомасць, і выказванні яго часта прыводзяцца ў іншых творах, для якіх "Іардан", відаць, служыць узорам".



Фота Аляксандра ЗАЙЦАВА.

**Ля магілы бацькі паэта Эдварда Жалігоўскага Эдуард Сыцько, Яўген Петрыкевіч, Станіслаў Шупенька, Анатоль Рогач.**

Пазнаёміўшыся з яго творчасцю, Тарас Шаўчэнка ў сваім пісьме да Б. Залескага ў 1854 годзе пісаў: "...Іардана" і Саву я ведаю як тваё сэрца..." Хаця драма перад выданнем і правяралася цэнзарам, аднак улады хутка схамянуліся, убачыўшы ў ёй яўны заклік да звяржэння самадзяржаўя і хутка забаранілі гэты твор. У 1849-50 годзе ў Вільні выйшла некалькі нумароў "Навукова-літаратурнага альманаха" на польскай мове, у якім удзельнічалі **У. Сыракомля, М. Лавіцкі**, Э. Жалігоўскі і іншыя тагачасныя паэты Беларусі. Неўзабаве часопіс быў абвінавачаны ў распаўсюджванні "Варожага ўраду духу" і закрыты. Рэдактар, сябар Антона Савы, Р. Падбярэзскі быў сасланы ў Архангельскую губерню. Актыў часопіса не задавальняўся выпускам польскамоўнага альманаха, яны намерваліся выдаваць і беларускі, які ўжо меў умоўную назву "Вязанка", і яго рэдактарам павінен быў стаць Э. Жалігоўскі. У гэты час А. Сава напісаў другую частку "Іардана", дзе прытрымліваўся ранейшых поглядаў на становішча ў краіне, і аддаў яго цэнзару. Улічваючы ўсе гэтыя акалічнасці, генерал-губернатар хадайнічаў перад міністрам унутраных спраў аб ссылцы Жалігоўскага на поўнач. Яго арыштоўваюць і адпраўляюць пад нагляд паліцыі ў Петразаводск – цэнтр Аланецкай губерні.

Паэт У. Сыракомля так пісаў пра гэтую падзею: "...паскольку ўдар па ім з'явіўся ўдарам па ўсіх нас, гаварыць не патрэбна! Ён быў адзін з рухаючых сіл "Вязанкі", ці будзе яна выходзіць і пад чыім кіраўніцтвам, не ведаю". На самой справе так і адбылося. "Вязанка" не выйшла, як і другая частка "Іардана".

Тры гады, праведзеныя паэтам у суровым паўночным краі, не прайшлі для яго дарам. Слабае здароўе было падарвана. Эдвард піша некалькі прашэнняў на імя службовых асоб, просіць спачатку даць хоць якую-небудзь справу, а затым і змяніць месца ссылкі. Толькі 13 ліпеня 1853 года такі дазвол быў атрыманы, і яго ў суправаджэнні двух жандараў адпраўляюць у Арэнбург. Міністр унутраных спраў Расіі, калі даведаўся пра гэта, моцна разгневаўся і загадаў выслаць Жалігоўскага ў любы заштатны горад, акрамя цэнтра губерні. Справа ў тым, што ў Арэнбурзе ён сышоўся з былым штабс-капітанам **Трубецкім**, які апынуўся тут таксама за антыўрадавую дзейнасць. Праз некалькі месяцаў Антон Сава пераехаў на Уфу, дзе яго ссылка закончылася толькі ў 1857 годзе, пасля чаго ён пераязджае ў Пецярбург і зноў займаецца літаратурнай працай. Аднак новая драма "Зорскі" так і не была надрукаваная.

Неўзабаве ў сталіцу Расіі прыязджае і **Т. Шаўчэнка**. Да гэтага паэты былі, па ўсёй бачнасці, знаёмыя толькі завочна праз беларуска-польскага мастака і пісьменніка **Браніслава Залескага**, які ў сувязі з нядобранадзейнасцю, толькі раней, быў сасланы радавым таксама ў Арэнбург, а затым разам з сасланым туды Шаўчэнкам удзельнічалі рысавальшчыкамі ў экспедыцыі па Сярэдняй Азіі, пазней вёў з ім працяглую перапіску. Ужо на другі дзень прыбыцця ў Пецярбург адбылася першая сустрэча Жалігоўскага з вялікім кабзаром. На адным з вечароў ён прачытаў свой новы верш "Да брата Тараса Шаўчэнкі". Праз некаторы час ужо ў адказ кабзар піша верш "Наследаванне Эдварду Саве", дзе выкарыстаў беларускую народную песню "Пасаджу я ля хаціны" з драмы Жалігоўскага "Зорскі". Пазней Жалігоўскі з ахвотаю перакладаў творы Шаўчэнкі на польскую мову.

Пры пасрэдніцтве А. Савы кабзар зблізіўся з тайнымі пецярбургскімі арганізацыямі. Сам жа Эдвард быў актыўным членам гуртка, які займаўся пытаннямі польска-беларускай гісторыі і літаратуры. Гурток падтрымліваў цесную сувязь з ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыяй, якая дзейнічала тут у 1856–64-х гадах.

У 1859-м вядомы дзеяч **Агрызка** пачаў выдаваць часопіс "Слова", які фактычна стаў легальным органам, рэдактарам якога стаў Жалігоўскі. За яго адкрыццё Тарас Шаўчэнка нават выпіў бакал шампанскага. Эдвард ужо па службовых абавязках некалькі разоў наведвае Беларусь, сустракаецца з вядомымі літаратарамі Віцебска, бывае і ў родных мясцінах. У гэты час у Гарадзілаве (Маладзечанскі раён) жыла пісьменніца **Габрыеля Пузына** (з Гюнтараў), аўтар многіх кніг пра гісторыю і тагачаснае жыццё Віленшчыны. У яе засталіся цёплыя ўспаміны пра сустрэчы з Антонам Савой. Аднак часопіс пасля выпуску 15-га нумара за антыўрадавую накіраванасць матэрыялаў, што друкаваліся ў ім, быў зачынены. Ён быў разлічаны на выхадцаў з Беларусі, але чыталі яго не толькі ў сталіцы. Некалькі нумароў даходзілі і на радзіму яго рэдактара. Дасылаў сюды свае матэрыялы і Кастусь Каліноўскі.

У 1958 годзе Жалігоўскі выдаў свой новы паэтычны зборнік і двухтомнік нарысаў "Сёння і ўчора", дзе зноў усхваляў беларускі народ і яго культуру, жадаў яго хутчэйшага вызвалення з-пад прыгнёту. Тут жа пісаў і пра творчасць **В. Дуніна-Марцінкевіча**. У той час А. Герцэн у пісьме да **І. С. Тургенева** пісаў: "...Ты ведаеш Жалігоўскага. Ён, я мяркую, не без рэзону, адзін з палякаў, які мае сапраўдныя звесткі. Ты б у яго папытаў ды мне адаслаў іх..."

Праз два гады Жалігоўскі пераязджае ў Вільню, дзе наспяваюць важныя рэвалюцыйныя падзеі, але доўга пажыць там не ўдалося. Падарванае ў ссылках здароўе давала ўсё часцей пра сябе ведаць, і ён вымушаны быў лячыцца за граніцай. Жыў у Італіі, Швейцарыі, супрацоўнічаў з перадавымі эмігранцкімі арганізацыямі, выступаў там у друку.

28 снежня 1864 года ва ўзросце 48 год ён памёр у Жэневе, дзе і пахаваны.

У Вілейцы імем Жалігоўскага названая адна з вуліц у новым мікрараёне, але памяць аб нашым знакамітым земляку з такой багатай біяграфіяй пакуль што знаходзіцца не ў належным стане.

Нядаўна мясцовым краязнаўцам удалося адшукаць у в. Касцяневічы магілу бацькі паэта. Чыгунны помнік у выглядзе крыжа быў моцна пашкоджаны. Памер **Юльян Жалігоўскі**, калі сын быў у паўночнай ссылцы, у 1853 годзе, пражыўшы на свеце 80 гадоў (на здымку).

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

**Эдвард Жалігоўскі**

## Штось і хтось

*Ах, яна красуня маладая,*
*І да таго шчэ болей,*
*болей штось –*
*Выходзіць замуж –*
*ах, бяда якая,*
*Што ёсць яшчэ,*
*яшчэ на свеце хтось!*
*Хто яе чароўнасць*
*прыкмячае*
*І да таго шчэ болей,*
*болей штось –*
*Яму не быць з ёй,*
*ах, бяда якая,*
*Што ёсць яшчэ,*
*яшчэ на свеце хтось!*
*Слоў сваіх на вецер не кідае,*
*Замкне ў грудзях*
*яна шчэ болей штось –*
*Хай шчасна йдзе,*
*але бяда якая,*
*Што ёсць яшчэ*
*на свеце іншы хтось!*

***

*Яна ці помніць?*
*Дзякую з глыбіняў духа,*
*Бо мне ўспамінаў*
*толькі засталіся мукі,*
*І сэрца ўжо нібы*
*Бетховенава вуха,*
*У ім, калі жывое,*
*навек сканалі гукі.*
*Забыцца пра гармонію*
*ў душы хачу я,*
*Якую знае сэрца,*
*ды ўжо не пачуе.*

**"Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай". Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя. Мінск, 1998.**

# І «мора» Нарач нарадзіла адміралаў

Вольналюбівая і гераічная нарачанская зямля нарадзіла расійскаму ваенна-марскому флоту двух адміралаў: **Івана** і **Станіслава Канаржэўскіх**. Іх бацькі адзін час жылі ў старым "Мядзіолі" – сучасным Мядзеле. І зусім не дзіўна, што любоў да мора іх дзяцей, несумненна, нарадзіла беларускае "мора" Нарач.

Лёс сваіх сыноў дапамог вырашыць бацька. Гісторыі вядома, што быў ён вельмі адукаваны, настойлівы, у якасці сакратара суда працаваў у Вілейцы і добра ведаў самога цара **Мікалая І**. Усё гэта і дапамагло яму ўладкаваць сваіх нашчадкаў у Санкт-Пецярбургскі марскі кадэцкі корпус. Ішоў 1843 год, і кіраваў навучальнай установай у той перыяд сам адмірал **Іван Крузенштэрн** – славуты вучоны, даследчык і мараплаўца. Усе кадэты вельмі любілі свайго настаўніка і, відома ж, ва ўсім хацелі быць падобнымі на яго.

Як добры і цікавы сон адной ночы праляцелі гады вучобы. І вайсковая служба родных братоў Канаржэўскіх пачала працягвацца не толькі на розных караблях, але і на розных... флатах. Малодшы (Іван) быў накіраваны на Балтыку, Станіслаў – на хвалі Чорнага мора.

Пра мужную і сумленную службу адміралаў-беларусаў расказалі архіўныя фонды Санкт-Пецярбурга. Вядомы ў Маладзечне заслужаны работнік культуры Беларусі **Вячаслаў Ляшковіч** не адзін раз наведваў Цэнтральны Ваенна-марскі архіў, даследаваў і вывучаў шматлікія дакументы. Добра захаваліся вахтавыя запісы з караблёў, дзе праходзілі службу Канаржэўскія, лісты ўзнагарод і многае іншае. У выніку паездак і пошук у архіве ў В. Ляшковіча з'явіўся цікавы нарыс пра братоў-адміралаў. Але, на жаль, у 1997 годзе В. Ляшковіч назаўсёды пакінуў гэты свет, і захаваўся ў ЦБ (цэнтральнай бібліятэцы) Маладзечна яго рукапіс. Быў бы іншы час і не такая бедная была б дзяржава – нарыс патрэбна было б выдаць кнігай. Яна была б вельмі карыснай для сённяшняй моладзі, бо яна – пра мужнасць, патрыятызм, любоў да роднага краю, чалавечую душу і духоўнасць, што цяпер у нашай грамадскасці ў вялікім дэфіцыце.

Пра высокія патрыятычныя пачуцці і вялікую любоў Івана Канаржэўскага да роднага краю расказвае такі цікавы гістарычны факт. Калі на беларускай зямлі запалала паўстанне пад кіраўніцтвам **Кастуся Каліноўскага**, будучы адмірал звольніўся з карабля і са сваёй зброяй прыбыў у яго атрад.

Мужны і храбры быў Станіслаў Канаржэўскі. Ён праходзіў службу пад камандаваннем героя абароны Севастопаля (1854–1895 гг.) адмірала **Нахімава**, і праслаўлены военачальнік неадночы даваў самую высокую адзнаку караблю, якім камандаваў беларус.

Вобраз жыцця Канаржэўскіх, іх адносіны да сяброў і старэйшых, да славы вельмі павучальныя і з'яўляюцца добрым прыкладам нашым сучаснікам.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, архівіст занальнага дзяржархіва, Маладзечна.**

■ **СУСТРЭЧЫ**

## «Куфэрак» у гасцях

**СМАРГОНЬ. У дзіцячай бібліятэцы была наладжаная сустрэча чытачоў з паэтам Віктарам Шніпам і маладзечанскім краязнаўцам, рэдактарам альманаха "Куфэрак" Міхасём Казлоўскім.**

Адзін з выпускаў альманаха быў прысвечаны Смаргоншчыне і знакамітым людзям з вёскі Шутавічы. "Куфэрак" у свой час пачынаўся як тэматычныя старонкі "Рэгіянальнай газеты". Дзеці сфатаграфаваліся з гасцямі і атрымалі іх аўтографы.

**Тарэса КУМІШЧА.**

■ **ВЫСТАЎКІ**

## Праваслаўе Беларусі ў фотаздымках

**ВІЛЕЙКА. 30 студзеня ў экспазіцыі краязнаўчага музея пачала працаваць фотавыстаўка "Беларусь праваслаўная", прысвечаная двухтысячагоддзю з нараджэння Хрыста.**

Яна ўжо вандруе па Беларусі 3 гады, і цяпер надышла чарга Вілейкі. Тут можна даведацца пра гісторыю храмаў, цэркваў і манастыроў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# ВІНШАВАНКІ

**Ядвізе Францаўне** і **Войцэху Францавічу Казакевічам** з Мядзельшчыны
Дарагія нашыя сястра і брат, цётачка і дзядзечка, з юбілеем!



Няхай ярчэй засвеціць сонца ўранні,
Сагрэе промнямі надзей.
Ад сэрца нашы пажаданні
Мы шлём вам ў гэты дзень.
Мы ўдзячны лёсу,
што вы ёсць на свеце,
Няхай для вас і час прыпыніць ход.
Усе родныя вам сёння зычаць
Здароўя і шчаслівых доўгіх год.

З юбілеем!
**Тамары Міхайлаўне Філістовіч**
Родная наша! Шчыра і сардэчна віншуем цябе!
Сегодня день рожденья твой!
Дай бог тебе здоровья.
А в доме пусть ютится лишь покой,
Согретый счастьем,
радостью, любовью.
Любовью к детям, к жизни,
ко всему –
Что может быть прекраснее
на свете!
Мир, дорогая, дому твоему
И много лет прожить
на этом свете.
*З любоўю, твае сёстры Галя, Ніна, Мая і іх дзеці і ўнукі.*

Мілую дачушку, унучку, сястрычку, пляменніцу
**Вольгу Курмель**
віншуем з 20-годдзем!
Жадаем шчасця, здароўя, кахання, прафесійных поспехаў, здзяйснення ўсіх животных мараў.
*Тата, баба Вера, дзед Іван, сем'і Курмель, Чарняўскіх.*

**Войцэх Францавіч** і **Ядвіга Францаўна Казакевічы**
з Купы!
С чудесным юбилеем поздравляем,
От всей души желаем,
Чтобы счастья было море,
Чтобы вы не знали горя,
Никогда бы не болели
И до ста лет не старели.
Чтобы в жизни вашей личной
Было все всегда отлично.
*Валя, Ліля, Ванда, Люся.*

Віншуем з днём нараджэння **Анатоля Міхайлавіча Палянскага** з Вілейкі! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, удачы. *Жонка, дочкі.*

З днём нарадажэння **Марыну Сіляўку**! Жадаю сонечных, шчаслівых дзён, удачы, няхай сэрца заўжды застаецца гарачым. *Рэгіна.*

Віншуем з днём нараджэння **Сяргея Здзіслававіча Кадушкевіча**! Жадаем здароўя, шчасця, радасці, сямейнага дабрабыту. *Жонка, сын.*

**Валянціне Гапановіч**. Поздравляю, счастья, радости желаю. Жить, творить, смеяться, петь, в общем – сердцем не стареть. *Муж.*

**Валянціне Мікалаеўне Гапановіч**. Жадаем вам мірнага неба, духмянага хлеба, крынічнай вады і ніякай бяды. *Дзеці і ўнук.*

Віншую сваю сястрычку **Марыну** з днём нараджэння! Жадаю ёй моцнага здароўя, усяго самага найлепшага. *Каця.*

Дарагая **Ніна Канстанцінаўна**, віншуем з юбілеем! Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту. *Тамара, Андрэй, Света, Сашачка.*

**Катажыне Пішчака**. Катажынка, віншую з днём нараджэння! Будзь здаровая, добра вучыся, слухайся маму і бабулю. *Рэгіна.*

## ■ ІМЯНІНЫ

**2 лютага**
**Праваслаўныя**: Рымы, Яўціхія, Яфіма.
**Каталіцкія**: Людмілы, Марыі, Міраслава.

**3 лютага**
**Праваслаўныя**: Агніі, Анастасія, Валяр'яна, Максіма, Яўгена.
**Каталіцкія**: Блажэя, Іпаліта.

**4 лютага**
**Праваслаўныя**: Анастасія, Гаўрылы, Георгія, Івана, Лявона, Мануіла, Пятра, Фёдара.
**Каталіцкія**: Веранікі, Андрэя, Юзафа.

**5 лютага**
**Праваслаўныя**: Генадзя, Клімента, Паўліна.
**Каталіцкія**: Агаты, Адэлаіды, Ізыдара.

**6 лютага**
**Праваслаўныя**: Ксеніі, Герасіма, Агапія, Анастасія, Вавілы, Цімафея.
**Каталіцкія**: Дароты, Багдана, Паўла.

**7 лютага**
**Праваслаўныя**: Віталя, Майсея, Піліпа, Рыгора, Селівана.
**Каталіцкія**: Рамуальда, Рышарда, Тодара.

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 5

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Пра ўзаемадапамогу і «новых прапаршчыкаў»

Аднойчы на нашым востраве праходзілі комплексныя вайсковыя вучэнні з прыцягненнем усіх відаў Узброеных Сіл. І вось каля нашай вайсковай часці, за лясочкам, размясціўся ўзвод дэсантнікаў, каб бараніць нас ад наземных "дыверсантаў". Працягнулі мы да сваіх новых суседзяў провад для сувязі, знайшлі там землякоў, пазнаёміліся. Ну, і пачалі дэсантнікі скардзіцца на сваё жыццё. Маўляў, і баявая падрыхтоўка, і палітзаняткі, і кухню самім даводзіцца абслугоўваць. Ды яшчэ і акоп трэба выкапаць да заўтра.

Паспачувалі мы ім ды супакоілі:

– З заняткамі і кухняй выкручвайцеся самі. А акоп вам выкапаюць!

– А каго ж вы і як прымусіце гэта рабіць?

– Не турбуйцеся! Нікога мы прымушаць не будзем. Самі прыйдуць! Нават прыбягуць! Пад вечар чакайце.

З тым і разышліся.

Былі ў нашай часці пяцёра "аўтарытэтных дзядоў у законе". І салдаты ад іх енчылі, і афіцэры. Ды што тут казаць, яны абрыдлі нават сваім калегам-"дзядам", бо ну нічога не рабілі! Суткамі толькі елі і спалі.

І вось кожны, хто быў у дэсантнікаў, паасобку, "незалежна" адзін ад аднаго падыходзілі да гэтых "аксакалаў" і гаварыў прыкладна наступнае:

– Там, за лясочкам, "духаў" прывезлі. Толькі-толькі пасля прысягі. Матчынай яды – поўныя сумкі! А самі – зашуганыя, усяго баяцца!

Заблішчэлі вочы ў "аўтарытэтаў", зачасаліся рукі. Бачым – нажыўку праглынулі.

Пад вечар сабралася гэтая пяцёрка ёлупаў, чубы з-пад пілотак павычэсвалі, рамяні ніжэй каленяў паспускалі, набралі рэчмяшкоў для "матчынай яды" ды і пачасалі за лясок – "духаў шыхтаваць". А мы па тэлефоне папярэджваем:

– Рыхтуйцеся, кліенты-добраахвотнікі на падыходзе.

Вярнуліся нашы "аўтарытэты" толькі пад раніцу. Ледзь прыпаўзлі. Потым пабачылі мы гэты акоп. Па ўсіх правілах ён быў выкапаны. А за акопам быў насыпаны даволі вялікі курганок з самаробным сцяжком ВДВ наверсе. Расказвалі, што гэты курганок нашы "стаханаўцы" насыпалі тымі рэчмяшкамі, што прызначаліся для "матчынай ежы".

Так, праўду гаварыў дзядуля Дарвін: "Праца нават з "дэмбеля" робіць чалавека!".

Не ведаю, як дзе, а ў нас прапаршчыкаў не любілі. І так здарылася, што адзін старшы сяржант захацеў працягваць службу, але ўжо менавіта ў гэтым званні. Нават рапарт паслаў напісаць. "Добрыя імкненні павінны ўзнагароджвацца!" – вырашылі таварышы па службе і пачалі дзейнічаць.

Тут варта адзначыць, што ўсе баявыя пасты, казарма і камандаванне ў нашай часці злучаліся паміж сабой тэлефоннымі лініямі. А была яшчэ і гучная сувязь. Гэта калі ўсе з дынамікаў чуюць, што ты гаворыш. Як на вакзале. Гучная сувязь была для экстрэмальных выпадкаў.

Знайшліся ўмельцы, якія выключылі дынамік на баявым пасту прэтэндэнта ў прапаршчыкі і вывелі адначасова яго тэлефон на гучную сувязь. Ну, і патэлефанавалі, разгаварылі, маўляў, чаму ён хоча атрымаць гэтае званне?

Уся вайсковая часць вельмі ўважліва праслухала "споведзь" пра тое, што, маўляў, мне б толькі да матэрыяльна-тэхнічнай базы дабрацца! А там праз год – машына, яшчэ праз год – кватэра! І увогуле, у дамах афіцэрскага саставу жонкі "очэнь дажэ нічаво!".

Маналог перабіў, грукаючы ў дзверы, чырвоны, як рак, днявальны. І загадаў тэрмінова бегчы да камандавання. Там наш "гора-мафіёзі" і "экс-казанова" толькі лыпаў вачыма, калі зампаліт з мацюкамі раз'юшана рваў на дробныя кавалкі ягоны рапарт аб пераводзе ў прапаршчыкі.

Чым скончылася служба гэтага вайскоўца, я не ведаю, бо быў тэрмінова звольнены ў запас. Тады па пастанове Вярхоўнага Савета СССР усіх студэнтаў дэмабілізавалі датэрмінова. Але выснову можна даць такую: "Спачатку зрабі, потым хваліся!".

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Бараніна ў гаршчочку (па-балгарску)

**1 кг бараніны, 2 цыбуліны (калі ёсць зялёная цыбуля – 15–20 пёраў), крыху мяты, 3–4 памідоры ці 2–3 лыжкі таматнага соусу, 1 лыжачка чырвонага молатага перцу, 6 лыжак масла, зеляніна пятрушкі, соль.**

Для прыгатавання гэтага блюда ўзяць гліняны збан або гліняны гаршчок з накрыўкай. Мяса нарэзаць невялікімі кавалачкамі, дадаць буйна нарэзаную цыбулю, мяту, зеляніну пятрушкі, нарэзаныя скрылькамі памідоры ці таматны соус, чырвоны молаты перац, соль. Сумесь як след перамяшаць і пакласці ў збан або гаршчок. Уліць адну шклянку вады. Збан закрыць накрыўкай і замазаць цестам. Запякаць каля дзвюх гадзін у гарачай духоўцы.

## Напітак з кефіру з таматным сокам

**0,5 л кефіру, 0,5 л вяршкоў, 0,5 л таматнага соку, цукар, соль, зеляніна пятрушкі.**

Кефір, вяршкі, таматны сок зліць у адзін посуд і ўзбіць да ўтварэння пены, дадаць соль, цукар на смак. Берагі шклянак змачыць вадой, апусціць іх у соль, затым напоўніць шклянкі напіткам. Кожную шклянку упрыгожыць галінкай пятрушкі.

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Запамінальная сустрэча

Гісторыя гэтая здарылася год 15-17 таму. Пераказваю яе са слоў відавочцы. Як, напэўна, памятаеце, у той час на вуліцах, іншамарак сустракалася мала. Але адна такая сустрэча адбылася і запомнілася майму таварышу надоўга. Значыць, скрыжаванне. Святлафор памер, і з гэтай прычыны стаіць паўаўтамат са свісткам і жазлом. Пад'язджае "Сітраэн" з дыпнумарамі. Па тых часах, суперпупер-наваротаны прадстаўніцкі аўтамабіль. Французы начынілі аўто ўсялякімі ўсемагчымымі тэхнічнымі рашэннямі. У тым ліку, і ўгаліне пасіўнай бяспекі. Але, відаць, перастараліся. Адзаду за "Сітраэнам" рухаецца прадстаўнік айчыннага аўтапрама - "Запарожац" - з дзядком за рулём. Знаёмая замалёвачка з айчынных анекдотаў. Напэўна, дзядуля быў іх роданачальнікам. Толькі паслядоўнікі і падноска яго не вартыя, мяркуючы па эфекце. Даішнік паварочваецца спінай да "Сітраэна". Выпешчаны дыпламат, што сядзіць за рулём "Сітраэна", расцэньвае гэта, як сігнал да спынення і рэзка тармозіць. Натуральна, дзядок на "Запарожцы" даганяе яго. І удар жа не моцны быў... Але за гукам удару пайшло хлопанне, быццам, наваґодняе петарды. Даішнік прысядае і паварочваецца. "Сітраэна" больш няма. Не, ён быццам бы ёсць, але на машыну не падобны. Стаіць кузаў без дзвярэй і рухавіка, за рулём - прыціснуты падушкай бяспекі ашалелы француз, заліты пенай з ног да галавы...

Першая спрацавала падушка бяспекі. Адстрэліліся піраплатронныя дзверы (каб не закліньвалі). Адстрэліўся на асфальт рухавік (каб у салон не залязец пры лабавым удары). І напрыканцы салон заліло пенай (каб не было пажару).

"Хуткая" забрала не мокрага француза (з такой аховай што яму зробіцца) і не дзеда (усю вайну прайшоў). Павезлі даішніка даставаць праглынуты з перапуду свісток.

А вы ўсё Мерседэс ды Мерседэс.

**Сямён БОНДАР.**

### Кінатэатр «Радзіма»

**Люты**

**Вялікая зала**

1 лютага – 3 лютага **"Без пачуццяў"**, ЗША, маладзёжная камедыя 15-30
**"Брацтва ваўка"**, Францыя–ЗША, эпічны баявік 17-30, 20-30
4–10 **"Перл-Харбар"**, ЗША, 2 серыі 14-10, 17-20, 20-30

**Для дзяцей**

3 – **"Хлопчык з ногцік"** 13-00

■ **КРЫЖАВАНКА** Ірына САХАЦКАЯ.




1. Мучны выраб з рэдкага цеста, спечаны на патэльні. 2. Службовая асоба, якая ажыццяўляе натарыяльныя дзеянні, акты. 3. Каштоўны камень сіняга або блакітнага колеру. 4. У некаторых краінах Заходняй Еўропы: орган гарадскога самакіравання. 5. Агародная расліна сямейства гарбузовых. 6. Нашчадак першых іспанскіх і партугальскіх каланізатараў у Лацінскай Амерыцы. 7. Месца на галаве, дзе не растуць валасы. 8. Паўднёвае дрэва сямейства ружакветных. 9. Рэдкі, незвычайны выпадак (разм.). 10. Вершаваная двухскладовая стапа з націскам на другім складзе. 11. Спектакль у гонар аднаго з яго ўдзельнікаў. 12. Цвёрды вонкавы слой хлеба. 13. Даследчык мора. 14. Міфы аб паходжанні і радаслоўнай багоў. 15. Невялікая шлюпка з адной ці дзвюма парамі вёслаў. 16. Натуральны выхад падземных водаў на паверхні зямлі. 17. Скура з задняй часткі жывёліны. 18. Нахіл на бок. 19. Новы паслядоўнік якой-небудзь рэлігіі. 20. Згушчэнне дробненькіх кропелек вады ў прыземных слаях атмасферы. 21. Частка неба над гарызонтам. 22. Знак азбукі. 23. Дзьмухавец. 24. Узвышэнне для лектара, прамоўцы. 25. Буйны землеўладальнік, памешчык. 26. Малочны прадукт. 27. Геадэзічны і астранамічны вугламерны інструмент. 28. Вучэне пра непасрэднае спасціжэнне боскіх тайнаў. 29. Пладовае дрэва сямейства ружакветных з ядомымі круглымі пладамі. 30. Ежа.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №4**

**Па гарызанталях:** 1. Геена. 4. Паніч. 6. Аплот. 9. Дама. 10. Азон. 11. Ротар. 12. Агат. 13. Купа. 14. Архар. 17. Агіда. 20. Ранак. 23. Смута. 25. "Кліма". 28. Валун. 30. Нага. 31. Пава. 32. Юкала. 33. Корак. 34. Гарт. 35. Ірыс. 36. Аўтар. 37. Аброк. 38. Абраз.

**Па вертыкалях:** 1. Гейша. 2. Еўнух. 3. Адвар. 4. Парта. 5. Чарка. 6. Ангар. 7. Лубін. 8. Трэск. 15. Ром. 16. Акт. 18. Гул. 19. Дым. 21. Аза. 22. Агу. 23. Слюда. 24. Анагр. 25. Карта. 26. Ізюбр. 27. Аплік. 28. Вакса. 29. Наказ.

# Чыгунка – небяспечная рэч

**У 2001 годзе на ўчастку абслугоўвання Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце (АУСТ) зарэгістравана 25 няшчасных выпадкаў на аб'ектах чыгуначнага транспарту, 13 з якіх скончыліся смерцю людзей, у тым ліку, 4 чалавекі выбралі чыгунку як сродак звядзення рахункаў з жыццём.**

Галоўнай прычынай траўматызму з'яўляецца празмернае ўжыванне спіртных напіткаў, парушэнне элементарных правілаў паводзінаў на чыгуначным транспарце. Толькі карнымі мерамі гэтую праблему не вырашыць, хаця за хаджэнне па чыгуначных пуцях у неўстаноўленых месцах прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу да 0,5 мінімальных заработных плат. У 2001 годзе да адміністрацыйнай адказнасці за дадзенае правапарушэнне прыцягнута 893 чалавекі, гэта не лічачы асоб, пакараных работнікамі чыгуначнай станцыі Маладзечна. Дзеля эканоміі часу, а таксама з-за лішніх выпітых 100 грамаў не варта рызыкаваць сваім здароўем, жыццём, шчасцем нашых дзяцей.

Асаблівы непакой выклікаюць выпадкі, калі ахвярамі чыгуначнага транспарту робяцца дзеці. Прычынай гэтага, часцей за ўсё, з'яўляецца бесклапотнасць некаторых бацькоў, адсутнасць з іх боку належнай увагі, кантролю за паводзінамі дзяцей. 23 кастрычніка 2001 года ў 16-40 на чыгуначным пераездзе станцыі Аляхновічы электрацягніком па ўласнай неасцярожнасці была траўміраваная сямігадовая дзяўчынка, якую з цяжкасцю выратавалі ад смерці медыкі.

Таксама вялікую трывогу і непакой у супрацоўнікаў Маладзечанскага АУСТ выклікае стан спраў з маёмаснай і асабістай бяспекай грамадзян на аб'ектах чыгуначнага транспарту. У апошні час пачасціліся выпадкі крадзяжоў рэчаў, грошай і дакументаў, іншых каштоўнасцяў у пасажыраў. У многіх выпадках самі пацярпелыя ствараюць умовы для рознага роду прайдзісветаў. Гэта распіццё спіртных напіткаў у дарозе, пакіданне рэчаў без нагляду або пад наглядам незнаёмых людзей. Сумкі, чамаданы і іншыя рэчы, што знаходзяцца пры сабе, трэба ўкладваць пад сядзенні і ў іншыя спецыяльна адведзеныя месцы, не ствараць зручнасцяў для "работы" злачынцаў. 12 студзеня 2002 года жыхарка Мінска ехала ў дызель-цягніку Гудагай-Маладзечна. Яна паставіла сумку на сядзенне, а сама занялася чытаннем газет. У выніку з сумачкі прапалі асабістыя дакументы. Калі, усё ж, у дачыненні да вас здзейсненае злачынства, неадкладна трэба звяртацца ў бліжэйшы орган міліцыі ці да работнікаў транспарту.

Балючым пытаннем прафілактыкі з'яўляюцца правапарушэнні, якія здзяйсняюць непаўналетнія. У 2001 годзе Маладзечанскім АУСТ было затрымана 180 непаўналетніх, зарэгістравана 15 фактаў біцця шкла ў цягніках. Чыгунцы нанесены ўрон на суму больш за 1 мільён рублёў. Як і раней, дрэнная сітуацыя складваецца ў сферы п'янства непаўналетніх. У 2001 годзе выяўлена 75 фактаў ужывання спіртных напіткаў непаўналетнімі. У некаторых выпадках чыгуначны вакзал робіцца месцам масавага збору падлеткаў, якія там бавяць час, што прыводзіць да пагаршэння стану грамадскага парадку. Таму хацелася б папярэдзіць бацькоў, што існуюць абмежаванні, устаноўленыя Мінаблвыканкомам, аб забароне з'яўлення непаўналетніх на вакзалах, вуліцах і іншых грамадскіх месцах без суправаджэння дарослых пасля 22 гадзін (у канікулярны час – пасля 23 гадзін).

## Элементарныя меры бяспекі на чыгунцы

– пераходзьце чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, перад тым пераканайцеся, што пуці свабодныя;

– не перабягайце чыгуначныя пуці перад цягнікам, які рухаецца;

– не скачыце з платформы на чыгуначныя пуці;

– не падлазьце пад вагоны, якія ў дадзены момант стаяць;

– не садзіцеся і не выходзьце, калі цягнік рухаецца.

**Юрый КРАЎЧАНКА, старшы інспектар Маладзечанскага АУСТ.**



## Гараскоп 4 – 10 лютага

**Авен** (21.03–20.04)

Залежнасць ад асоб супрацьлеглага полу і жаданне ісці ім насустрач праяўляецца ў Авенаў нячаста. Але, магчыма, у гэты перыяд вы праявіце свае лепшыя якасці: імкненне да ўзаемаразумення, удзел у асабістых праблемах вашага партнёра. Гэта з'явіцца добрым стымулам да таго, што тыдзень пройдзе ў стане душэўнага камфорту.

**Цялец** (21.04–21.05)

Не рэкамендуецца выязджаць у камандзіроўкі, паездкі нават на кароткія адлегласці могуць прывесці да непрыемных наступстваў. У гэты перыяд усе фінансавыя пытанні могуць быць вырашаныя па тэлефоне, а асабістыя праблемы запатрабуюць вашай фізічнай прысутнасці – можаце атрымаць нядрэнны падарунак.

**Блізняты** (22.05–21.06)

У адрозненне ад вашых братоў па Задыяку, якім рэкамендавана больш сядзець дома і менш ездзіць па свеце, вам зоркі спрыяюць у паездках. Асабліва ў незапланаваных – вы можаце выявіць шмат магчымасцяў, пра якія раней і не здагадваліся. А вось запланаваныя мерапрыемствы і сустрэчы не адбудуцца.

**Рак** (22.06–23.07)

Калі вы забыліся, што такое нармальны стан арганізма, то давядзецца ўспомніць. Дакладней, ваш арганізм сам абвесціць пра сябе. І вы будзеце вымушаныя займацца "аздараўленнем". Для гэтага, у першую чаргу, трэба абмежаваць сябе ад трывог і хваляванняў. Магчымае некаторае напружанне ў каханні, вы можаце пакрыўдзіць партнёра няўвагай.

**Леў** (24.07–23.08)

Вы будзеце схільныя фарсіраваць сітуацыю і бегчы "наперадзе паравоза". Не спяшайцеся ні ў дзеяннях, ні ў думках. Часовыя фінансавыя ўскладненні ў бізнесменаў будуць звязаныя, хутчэй, з не зусім дакладнымі разлікамі, агульныя эканамічныя тэндэнцыі пачатку лютага будуць не вельмі добрыя. А на сардэчным фронце – вострасюжэтныя прыгоды.

**Дзева** (24.08 -23.09)

У гэты перыяд ваш партнёр будзе асабліва крыўдлівы. Таму, каб захаваць і без таго няпростыя стасункі, паспрабуйце быць стрыманым і не правакаваць сямейныя канфлікты. Затое ў вытворчай сферы намячаецца некаторы прарыў. Асабліва добрыя абставіны ў фінансістаў і юрыстаў.

**Шалі** (24.09–23.10)

Перыяд надзвычай спрыяльны для жанчын-Шаляў, цвярозы розум якіх канчаткова пераможа чыёсьці ўпартае мужчынскае сэрца. Магчыма, дамы атрымаюць прапанову, магчыма, прызнанне ў каханні або павышэнне па службе. Парадуюць бацькоў дзеці-Шалі, які зробяцца раптам паслухмянымі і пяшчотнымі.

**Казярог** (22.12–20.01)

Першы тыдзень лютага прымусіць разбірацца ў сардэчных справах. Жанчыны-Скарпіёны, якія ў сілу свайго характару схільныя "падражніць" партнёра і сыграць у чарговы раз у азартную гульню з жыццём, могуць перавысіць свае паўнамоцтвы і ўласнымі рукамі загубіць усё лепшае, што вакол іх. Праявіце асцярожнасць, і ўсё будзе цудоўна.

**Скарпіён** (24.10–22.11)

Набірайцеся сіл... Салярыі, масажы, гімнастыка – усё гэта павінна стаць не толькі "тыднем здароўя" у гэты перыяд, але і ператварыцца ў стыль жыцця. Гэта тычыцца і мужчын, і жанчын. Да канца зімы ў вас заўсёды намячаецца спад у эмацыянальнай сферы, абумоўлены зніжэннем імунітэту. У выхадныя – на прыроду, у лес!

**Стралец** (23.11–21.12)

Многія з Казярогаў будуць схільныя да дэпрэсіі і дрэннага настрою. Але калі ў іх спытаюцца: "А што здарылася?" – яны нават не змогуць адказаць. Каб ступень стамлення не перавысіла ўсе дапушчальныя нормы, навучыцеся ўсё кідаць. Інакш выдатная навіна можа застацца незаўважаная.

**Вадалей** (21.01–19.02)

У многіх Вадалеяў дасягненне даўно пастаўленаў мэты або здзяйсненне нейкай мары магчымае 6–7 лютага. Але некалькі нестабільны эмацыянальны стан і перажыванні з прычыны і без прычыны могуць не дазволіць атрымаць асалоду ад яркіх падзей на поўную моц.

**Рыбы** (20.02–20.03)

Пачнецца шэраг падзей, якія некалькі ўпрыгожаць негатыўны фон, што панаваў у вашым жыцці некалькі месяцаў. Стабілізуюцца асабістыя стасункі, вы будзеце больш адкрытыя, мабільныя і спакойныя. Калі ў гэты перыяд вашым партнёрам у паездках або перамовах будуць Блізняты, то магчымая выдатная здзелка.

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

**Рэгіянальная газета**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8340 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№5 (354) 1.02.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 392. Падпісана ў друк у 13.00 31.01.2002

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»